Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

7 чэрвеня 1991 г. ПЯТНІЦА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 110 (21638)

Цана 10 кап.

## Скандынаўская паездка Прэзідэнта СССР

ОСЛА, 6. **(Спец. кар. ТАСС Н. Вуколаў, С. Няшумаў, А. Сурыкаў).** Старажытная крэпасць Акерсхюс, якая навісае над Осла-фіёрдам, па праву лічыцца адной з галоўных славутых мясцін нарвежскай сталіцы. За амаль 700-гадовую гісторыю яе старажытныя сцены бачылі многае. Сёння крэпасць наведаў Прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў. Ён усклаў вянок да нацыянальнага манумента, размешчанага на цэнтральнай крапасной плошчы. Адкрыты ў маі 1970 года, у дні, калі святкавалася 25-годдзе разгрому германскага фашызму, гэты манумент стаў помнікам усім нарвежцам, якія загінулі ў гады другой сусветнай вайны.

У перыяд ваеннага ліхалецця тысячы савецкіх воінаў загінулі на тэрыторыі Нарвегіі, адстойваючы свабоду і незалежнасць гэтай краіны. Нарвежцы аб гэтым добра памятаюць. На гарадскіх могілках Вестрэ Граўлюнд устаноўлены помнік загінуўшым савецкім салдатам. На стэле з шэрага граніту напісаны словы: «Нарвегія ўдзячная вам». М. С. Гарбачоў усклаў вянок да манумента.

У абедзвюх цырымоніях прымала ўдзел прэм'ер-міністр Нарвегіі Гру Харлем Брундтланд.

Заканчваецца праграма кароткага — ён працягваўся менш чым суткі, — але насычанага па зместу візіту М. С. Гарбачова ў Нарвегію. У якасці лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру за 1990 год ён прачытаў тут традыцыйную нобелеўскую лекцыю, правёў перагаворы з прэм'ер-міністрам Нарвегіі, па выніках якіх была падпісана сумесная савецка-нарвежская заява, нанёс візіт каралю Нарвегіі Харальду V.

...У міжнародным аэрапорце Фарнебю падняты дзяржаўныя флагі СССР і Нарвегіі. Ля трапа самалёта М. С. Гарбачова і яго жонку праводзяць Г. Харлем Брундтланд, старшыня Нарвежскага нобелеўскага камітэта Франсіс Сеерстэд, іншыя афіцыяльныя асобы.

Сярод праводзячых — пасол СССР у Нарвегіі А. Ф Цішчанка.

10.15 раніцы. Прэзідэнцкі самалёт узнімаецца ў паветра і бярэ курс на Стакгольм.

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

# Як жа адклікаць дэпутата

Заканадаўча замацаваць ролю народных выбраннікаў у сістэме мясцовага самакіравання, стварыць гарантыі для эфектыўнай дэпутацкай дзейнасці заклікаць Закон «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Беларускай ССР». Яго першае чытанне, пасля якога дакумент быў прыняты, прайшло даволі роўна. Старшыня Камісіі па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання Уладзімір Леўчык адзначыў, што законапраект распрацаваны на аснове аналагічнага саюзнага і Закона аб статусе народнага дэпутата Беларускай ССР. Ён рэгламентуе дзейнасць народнага дэпутата ў Савеце, у выбарчай акрузе, арганізацыю работы з наказамі выбаршчыкаў, асноўныя гарантыі дэпутацкай дзейнасці.

Законапраект вызначае дэпутата мясцовага Савета як паўнамоцнага прадстаўніка сваіх выбаршчыкаў у калектыўным органе дзяржаўнай улады. У адрозненне ад канструкцыі «дэпутат — прадстаўнік народа», якая з'яўляецца не больш чым шырмай, такое вызначэнне заклікана закласці асновы працуючай дэмакратыі, забяспечыць падкантрольнасць і адказнасць дэпутата перад выбаршчыкамі, — падкрэсліў У. Леўчык. Яно адпавядае і рэальнаму становішчу спраў, таму што кожны дэпутат атрымлівае мандат даверу ад канкрэтных выбаршчыкаў і абавязаны адказваць за яго перад людзьмі.

Цэнтральнае месца ў праекце займае выкладанне паўнамоцтваў дэпутатаў, сярод якіх У. Леўчык выдзеліў тыя, што далучаюць іх да кадравых рычагоў самакіравання. Дакумент дае ім права вылучаць кандыдатуры, у тым ліку і сваю ўласную, у састаў мясцовых органаў, якія ўтвараюцца Саветам, уносіць прапановы аб зняцці з пасад службовых асоб, іншых кадравых перастаноўках, даваць адводы кандыдатурам на дзяржаўную пасаду.

Большасць дэпутатаў, якія выступілі ў спрэчках, падтрымалі законапраект.

Валерый Ціхіня падкрэсліў, што статус дэпутата мясцовага Савета павінен уключаць у сябе не толькі правы, але і абавязкі, не толькі паўнамоцтвы, але і адказнасць. У законе павінна быць дакладна зафіксавана: народны дэпутат заклікаць выконваць даручэнні Савета і яго органаў, строга выконваць нормы дэпутацкай этыкі.

Леанід Баршчэўскі заявіў, што, на яго думку, прадстаўлены дакумент неабходна назваць «часовым палажэннем аб статусе...», паколькі Саветы — гэта тая форма мясцовага самакіравання, якая ў бліжэйшы час будзе зменена, і на змену ёй прыйдзе муніцыпальнае, і, значыць, прыйдзецца прымаць новы закон. Аднак з яго думкай большасць дэпутатаў не згадзілася.

Роўны ход вячэрняга пленарнага пасяджэння 4 чэрвеня быў парушаны, калі парламентарыі пачалі абмеркаванне Закона «Аб парадку адклікання народнага дэпутата ў Беларускай ССР». Тут спектр думак быў вельмі шырокі. Ігар Гермянчук назваў дакумент «партыйна-наменклатурным» і адмовіўся не толькі галасаваць за яго, але нават удзельнічаць у абмеркаванні. Уладзімір Кавалёнак унёс прапанову не прымаць закон на гэтай сесіі наогул і правесці наконт гэтага пайменнае галасаванне. З пэўнай доляй іроніі Зянон Пазняк прапанаваў прыняць яго адразу ў другім чытанні. Дэпутатаў не задаволіла, відаць, размытасць і неканкрэтнасць асобных норм і палажэнняў дакумента. Тройчы пайменна галасаваў парламент. 111 народных выбраннікаў не пажадалі прымаць закон аб сваім адкліканні, падтрымаўшы прапанову У. Кавалёнка. 31, пэўна аднадумцы З. Пазняка па парламенцкай апазіцыі, галасавалі на яго карысць. 167 (кворум для прыняцця рашэння — 174) аддалі перавагу прапанове Камісіі па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання — адобрыць у першым чытанні асноўныя палажэнні законапраекта. Такім чынам, дакумент пасля гарачых слоўных баталій быў «паспяхова» адпраўлены на дапрацоўку.

У «розным» выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей і далажыў аб пасяджэнні Савета Федэрацыі наконт Саюзнага дагавора, якое адбылося напярэдадні. Ён заявіў, што ў бліжэйшыя дні дэпутатам будзе прадстаўлены ўзгоднены з удзельнікамі падрыхтоўчага камітэта праект Саюзнага дагавора.

Своеасаблівы рэкорд устанавілі на адным з пасяджэнняў народныя дэпутаты: за дзве гадзіны яны паспелі прыняць тры законы і вырашыць аргпытанне.

Толькі адзін «чорны шар» атрымаў Закон «Аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў Беларускай ССР», праект якога прадставіў дэпутатам міністр замежных спраў Пётр Краўчанка.

Характэрна, што наш парламент стаў першым у Саюзе заканадаўчым органам, які разгледзеў такі дакумент.

Прававыя межы, прабачце за міжвольны каламбур, бязмежным беспарадкам і анархіі ў эканамічных і дзелавых сувязях заклікаць пакласці два новыя акты — «Закон аб гаспадарчым судзе ў Беларускай ССР» і «Закон аб гаспадарчым працэсуальным кодэксе Беларускай ССР». З гэтага часу міністэрствы і ведамствы не змогуць беспакарана дыктаваць сваю волю працоўным калектывам і прыватным прадпрымальнікам, а іх кішэнныя арбітражныя службы — вырашаць спрэчкі загадзя на карысць «шэфаў». Дарэчы, народныя суды цяпер будуць у асноўным вызвалены ад разбору па гаспадарчыхісках.

Старшынёй вышэйшага гаспадарчага суда рэспублікі дэпутаты выбралі Уладзіміра Бойку, былога галоўнага дзяржаўнага арбітра БССР.

**У. ГЛОД,**
**А. КРЫЖАНОЎСКІ,**
**В. СІВАКОЎ,**
**парламенцкія карэспандэнты БЕЛТА.**

## Заява Сакратарыята ЦК КПСС

Паўстагоддзя назад Ленінград стаў мішэнню фашысцкіх захопнікаў, якія мелі намер пазбавіць горад яго імя, а затым і зусім сцерці з зямлі як сімвал расійскай дзяржаўнасці і калыску сацыялістычнай рэвалюцыі. Цаной нечуваных нягод і ахвяр наш народ адстаяў вялікі горад. Ледзь ці не палавіне ленінградцаў гэта барацьба каштавала жыцця, але вораг не прайшоў. Гераічная абарона Ленінграда мела велізарнае значэнне для зрыву захопніцкіх планаў фашызму. У тыя трагічныя гады імя Ленінграда гучала як сімвал мужнасці і свабодалюбства для людзей усяго свету. Належнае гэтаму подзвігу аддае сёння і будзе аддаваць у будучым удзячнае чалавецтва.

Цяпер імя вялікага горада на Няве атакуюць тыя, хто ачарняе савецкі перыяд нашай гісторыі. Яны хочуць адняць у яго імя Леніна, выдаўшы гэта за волю народа — на 12 чэрвеня назначаны гарадскі рэферэндум.

Першыя крокі арганізатараў гэтай акцыі выклікалі глыбокую трывогу ў грамадстве, шматлікія звароты ў органы дзяржаўнай улады, партыйныя камітэты, сродкі масавай інфармацыі. Сутнасць зваротаў і патрабаванняў — не дапусціць ажыццяўлення ганебнай задумы. Слаўнае імя Ленінграда і тое, што звязана з ім у нашай цяжкай гісторыі, належыць усім народам многанацыянальнага Саюза ССР. Яно прысвоена гораду 26 студзеня 1924 года II-м з'ездам Саветаў СССР, які задаволіў просьбу Петраградскага Савета рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, падтрыманую рэзалюцыямі рабочых фабрык і заводаў Петраграда. Таму спрабаваць без парады з усім савецкім народам вырашаць пытанне аб перайменаванні вялікага горада — значыць аднесціся да сваіх суайчыннікаў без павагі, дэманстратыўна ігнараваць іх думку.

Задуманая акцыя мае ярка выражаны палітычны характар і вядзе не да стабілізацыі, грамадзянскай згоды, а да нагнятання разладу, стварае новую лінію канфрантацыі.

Чалавечы абавязак кожнага грамадзяніна нашай краіны — і ў першую чаргу ленінградцаў — адхіліць задуманы акт непавагі да гісторыі і сучаснасці, непавагі да памяці пакаленняў, якія жылі на гэтай зямлі да нас, непавагі да сваіх сучаснікаў.

Сакратарыят ЦК КПСС заклікае не дапусціць зняслаўлення імя слаўнага Ленінграда, горада-героя, горада-воіна і працаўніка!

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### БОЛЬШ БЫ ТАКІХ СВЯТ

**УШАЧЫ. (В. Караленка). У нядзелю ў гарадскім пасёлку пройдзе свята беларускага мастацтва. Па традыцыі запрашаюцца вядомыя землякі — пісьменнікі Р. Барадулін, В. Быкаў, С. Законнікаў.**

Арганізатарамі свята з'яўляюцца раённае таварыства беларускай мовы, раённы аддзел культуры і раённы камітэт партыі. На свяце выступяць народныя самадзейныя калектывы, будзе арганізаваны гандаль беларускай літаратурай.

І завершыцца яно гульнёй «Поле цудаў» — таксама па тэматыцы беларускага мастацтва.

### ГРОШАЙ НЕ ПРОСЯЦЬ— ІХ ЗАРАБЛЯЮЦЬ

**ПУХАВІЦКІ РАЁН. (С. Ворскі). Калектыў Рудзенскай школы-інтэрната замест зваротаў аб дапамозе, што сталі надта моднымі ў апошні час, вырашыў зарабляць грошы для школьных патрэб сам. І, як паказаў першы вопыт, робіцца гэта даволі паспяхова.**

На базе школьнай майстэрні і дапаможных памяшканняў створана малое прадпрыемства па вытворчасці дэфіцытнай сёння мэблі. Заснавальнікам прадпрыемства стала школа-інтэрнат, а рабочыя — перасяленцы з забруджаных радыяцыяй зон рэспублікі, якія жывуць цяпер у Рудзенску.

Першыя доследныя ўзоры мэблі — драўляныя лыжкі і кухонныя наборы — ужо сышлі з «канвеера». Па ўмовах дагавора 10 працэнтаў сродкаў ад даходу прадпрыемства будзе пералічвацца на рахунак школы-інтэрната. Яна ж можа сама распараджацца і 30 працэнтамі вырабляемай прадукцыі. У недалёкай будучыні знойдзецца работа і для саміх школьнікаў: ствараецца яшчэ адно малое прадпрыемства, якое будзе займацца развядзеннем карпаў.

### ПРАДКАЗАЛЬНІКУ БУДУЧЫНІ... ВОСЕМ ГАДОЎ

Так. І нават феномен Жэні Носава трапіў у поле зроку дзевятага выпуску газеты «Свободные новости». Што ж датычыцца асноўнай тэматыкі выпуску, то ўчытайцеся толькі ў загалоўкі некаторых матэрыялаў: «Жабракі: 8 з 10 сімулянты. І ўсё ж таму, хто дае — адплаціцца», «Просты савецкі мільянер марыць уступіць у кампартыю і наладзіць вытворчасць брыльянтаў», «У Ватыкане гавораць па-беларуску... А ў беларускім парламенце — па-руску».

Калі хочаце даведацца пра апошні прэйскурант цэн на хадавыя тавары аўтарынку ў Мінску і аб «падводных рыфах» аўтамабільнага бізнесу, чытайце матэрыял «Самая танная аўтабарахолка — у Мінску. «Дзевятка» ў нас ідзе ўсяго за 100.000».

Выказваецца ў «Свабодных навінах» і даволі смелы, але рэальны прагноз, што калі дойдзе да выбараў Прэзідэнта БССР, то сярод прэтэндэнтаў апынуцца прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, генеральны дырэктар «БелаўтаМАЗа» Міхаіл Лаўрыновіч і віцэ-прэзідэнт БНПА, генеральны дырэктар «Гарызонта» Аляксандр Санчукоўскі.

### ЧАРНОБЫЛЬЦЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**3 чэрвеня ў Рызе на Домскай плошчы з'явіліся палаткі, а каля іх — людзі, якія распачалі галадоўку. Гэта былыя ўдзельнікі ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Што прывяло на плошчу латышскіх чарнобыльцаў? Вынікі галасавання ў рэспубліканскім парламенце: латышскім чарнобыльцам адмоўлена ў тым сацыяльным статусе, які вызначаны нядаўнім Законам СССР «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы». Супраць выказаліся прадстаўнікі Народнага фронта рэспублікі, маўляў, мы вас туды не пасылалі...

На гэта ўдзельнікі галадоўкі заўважаюць: бяда была адна на ўсіх. І ўвогуле — фінансаванне ўсіх мер, якія прадугледжаны ў законе, будзе ажыццяўляцца з саюзнага бюджэту. Куды ж гэтыя грошы пойдуць? А яшчэ латышскія «ліквідатары» зайздросцяць нашым беларускім чарнобыльцам...

Цяжка запярэчыць штонебудзь супраць, хіба што: чарнобыльцам увогуле лепш не быць — ні беларускім, ні латышскім, з ільготамі ці без іх. І дрэнна, калі нават у чарнобыльскую тэматыку пранікае палітычнае адценне, калі і тут людзей спрабуюць развесці па нацыянальных кватэрах. Спекуляваць на няшчасці людзей нельга, гэтага яны не даруюць нікому — ні «левым», ні «правым». Дарэчы, у гэтым выпадку, напэўна, актуальным будзе заклік: «Чарнобыльцы ўсіх рэспублік, яднайцеся!»

## Зацверджана выбарчая камісія

Беларускі рэспубліканскі савет ветэранаў вайны і працы паведамляе, што бюро прэзідыума рэспубліканскага савета зацвердзіла выбарчую камісію па выбарах народнага дэпутата БССР ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы ўзамен выбыўшага народнага дэпутата БССР С. М. Шабашова у наступным саставе: Дзялец Міхаіл Іванавіч — старшыня, Абуховіч Анатоль Пятровіч — намеснік старшыні, Боева Ніна Пятроўна — сакратар, Шалькевіч Браніслаў Вікенцьевіч — член камісіі, Груздзеў Канстанцін Аляксандравіч — член камісіі, Дубрава Глеб Фёдаравіч — член камісіі, Цітоў Іван Васільевіч — член камісіі.

Адрас камісіі: 220030, г. Мінск, вул. Я. Купалы, 21, тэл. 26-12-60.



## Чалавек і яго справа

Віцебскі панчошна-трыкатажны камбінат імя КІМ — адзін з флагманаў лёгкай прамысловасці рэспублікі. Ён выпускае верхні і бялізнавы трыкатаж, панчошна-шкарпэткавыя вырабы больш дваццаці назваў. Прадукцыя карыстаецца павышаным попытам не толькі ў нас у краіне, але і экспартуецца ў ФРГ, Францыю, Манголію. Валютныя паступленні дазваляюць высокімі тэмпамі абнаўляць абсталяванне, укараняць сучасныя аўтаматы і аўтаматызаваныя лініі замежнай вытворчасці. А гэта ўсяляе надзею, што нарэшце і ў нашых магазінах з'явяцца прыгожыя і высакаякасныя вырабы віцяблян.

**На здымках:** мастакі-мадэльеры прадпрыемства Людміла **Тарасава,** Ірына **Красоцкая** і Тамара **Гарыдавец** заняты новымі распрацоўкамі трыкатажных вырабаў; трыма сумежнымі прафесіямі авалодала за час работы на камбінаце швачка-матарыстка Кацярына **Лапухова.**

**Фота А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА. (БЕЛТА).**



### Сам-насам з чытачом

## «Анегін быў лішнім чалавекам?»

У правінцыяльным гарадку Н. здарылася непрыгожая гісторыя. Справа была такая. Дзяўчынцы ў партфель аднакласнікі дзеля жарту падклалі цагліну. Яна яе, зразумела, знайшла. Агульны смех. Цагліна ляціць у расчыненую фортку, але трапляе не ў яе, а ў шкло. Вялікае такое, дэфіцытнае. Нямая сцэна. На звон з'яўляецца нейкая дама, скажам так, з кіраўніцтва школы. Хуценька праводзіцца «разбор» з абавязковымі ў такім выпадку крыкам і лаянкай. Іншы прыняў бы, як гаворыцца, да ведама, вытрымаў псіхалагічную атаку бацькоў — і на тым пастараўся б забыць. Дзяўчынка ж аказалася максімалісткай і вырашыла, што пасля такога жыць не варта. Прыйшла дадому і выпіла эсенцыю воцату.

Зараз яна — у адной са сталічных бальніц. Будзе жыць. Але на ўсё жыццё застанецца інвалідам — падобныя атручэнні проста так не праходзяць.

Чытач чакае, што зараз я паведамлю аб тым, як і каго пакаралі. Ніяк і нікога. Даме нават не аб'явілі вымовы. Удзельнікі гісторыі перажылі непрыемныя хвіліны, але імі ўсё і скончылася. Бацькі дзяўчынкі не палічылі магчымым узнімаць шум. Пры ўсіх іх справядлівых эмоцыях яны разумеюць, што дачцэ прыйдзецца заканчваць менавіта гэту школу. Гэта невялікі, паўтару, гарадок, і перавод у іншую школу нічога не дасць, калі ўвесь Н. аб выпадку ведае ва ўсіх падрабязнасцях.

Такім чынам, цана за пабітае шкло аказалася вельмі дарагой — па-сутнасці, зламанае жыццё чалавека, які жыць, можна сказаць, і не пачынаў. Толькі рыхтаваўся, марыў, будаваў планы. Цяпер на ўсім гэтым — крыж. Замест нармальнага паўнацэннага жыцця — бясконцыя казённа-абыякавыя калідоры бальніц.

Аднак адказ на пытанне «хто вінаваты?» мне не здаецца такім ужо лёгкім.

Так было б проста: вось яна, саджайце яе, яна вінавата. Ну, пасадзілі (бяру крайні, малаэрэальны варыянт, бо даказаць тут штосьці цяжка, ды ніхто і не даказвае). Што далей? Ніхто не дасць гарантый, што ў правінцыяльных гарадках К. ці М., Л. ці Б. не здарыцца чагосьці падобнага. Таму што ўсюды адно і тое ж, адна сістэма, адны людзі, адны задачы. Вось цікава, дарэчы, аб задачах паразважаць.

Якую задачу, напрыклад, ставіць перад сабой наша школа? Нядаўна было: выхаваць сумленнага, так сказаць, свядомага працаўніка, надзею і апору Савецкай улады. Каб, значыць, гэты працаўнік да яе адносіўся лаяльна. Няхай ён зорак з неба не хапае, няхай яму ў жыцці прызначана працаваць толькі рыдлёўкай (у кожнага свая планіда), але каб лаяльна.

Раптам — перабудова, раптам самыя грунтоўныя арыенціры аказваюцца не зусім грунтоўнымі і нават падвяргаюцца абструкцыі з самых розных бакоў. Ашаломлены адкрытай праўдай, народ ні ў што не верыць. Ён прывык, наш народ, у штосьці верыць. Народ — гэта таксама і дзеці. Не вераць бацькі — не вераць і дзеці. Што рабіць школе? Ствараць сваю сістэму каштоўнасцей? Як, з кім і якіх? Нарэшце, гэта вельмі клапатлівы занятак. Улічым таксама, што школа — толькі частка грамадства, далёка не самастойная, якая залежыць ад сучаснага стану таго ж грамадства.

Мне ж іншы раз яна нагадвае армейскую часць з ільготным рэжымам. У арміі павінен быць парадак, малодшы падпарадкоўваецца старшаму і г. д. (гл. агульнавайсковыя статуты). Тая дама, што крычала на дзяўчынку, крычала не таму, што дзяўчынка дапусціла смяротны грэх (пакуль будуць дзеці, шкло будзе біцца), а таму, што на саму даму будзе крычаць дырэктар. А на дырэктара — наступны дырэктар, а на яго — яшчэ хтосьці...

У тым жа правінцыяльным гарадку Н. летась патануў у рэчцы хлопчык. Навучальны год ужо закончыўся, таму дырэктар атрымала толькі вымову. Хоць, здаецца, за сваё дзіця павінны адказваць бацькі і толькі бацькі. Калі яны ў гэты момант «запівалі горкую», то гэта іх праблема, ні школа, ні настаўнік тут ні пры чым. Але тут тыповая логіка: мы ж вам яго аддалі, вы і глядзіце. Дык, выходзіць, ваша дзіця ўжо не ваша, а дзяржаўная маёмасць? І вы ўжо не несяце за яго адказнасці?

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# Пра «падазронасць»

### Рэпліка

У цяперашні вельмі своеасаблівы час многія нашы суграмадзяне і нават цэлыя іх групы чамусьці трапілі пад падазрэнне. Падазронымі лічацца кааператары, дзелавыя людзі, лібералы, дэмакраты, кансерватары, генералы, кандыдаты ў прэзідэнты...

Што зробіш, калі на бытавым узроўні мы пакуль што больш дэкларуем тыя ж плюралізм і цярпімасць да іншай думкі і пазіцыі, чым праяўляем іх самі. Але праяўляецца іншы раз і жаданне паставіць гэту прывычную для нас з вядомых гадоў «падазронасць» на больш высокі, скажам так, салідны ўзровень. Такую спробу зрабіла ў нумары ад 5 чэрвеня г. г. і «Народная газета». У заметцы пад назвай «КПБ і Саўмін: нестатутныя адносіны?..» яна, ні больш, ні менш, падазрае рэгістрацыю Кампартыі Беларусі ў Міністэрстве юстыцыі БССР у якасці аднаго з грамадскіх аб'яднанняў грамадзян рэспублікі ў... незаконнасці. Маўляў, каб КПБ «у свой час прыняла статут», то ў нас прэтэнзій не было б. А так — не, «незаконна»...

Няўжо журналістам з рэспубліканскай газеты трэба напамінаць аб матэрыялах XXXI з'езда Кампартыі Беларусі, у якіх чорным па беламу запісана, што КПБ не аддзяляе сябе ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, з'яўляецца яе самастойным атрадам, а ў сваёй дзейнасці кіруецца Статутам КПСС. А гэты Статут, як вядома, зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі СССР 4 красавіка 1991 года за № 57. Вядома і тое, што дзеянне саюзных заканадаўчых актаў на тэрыторыі нашай рэспублікі яшчэ ніхто не адмяняў.

Да заявы Сакратарыята ЦК КПБ у Мінюст рэспублікі з просьбай аб рэгістрацыі былі прыкладзены таксама «Выпіска з пратакола ўстаноўчага з'езда», на якім арганізавана Кампартыя Беларусі, «Канцэпцыя Праграмы Камуністычнай партыі Беларусі» і інш. — усяго 12 дакументаў. І, як паведамілі з Міністэрства юстыцыі, правяралася ўся дакументацыя вельмі ўважліва, гаворачы словамі самой «Народнай газеты», — «ажно да косак». Так што ў гэтым плане КПБ, як і належыць, была на роўных з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі.

Карацей, кожны непрадузяты чалавек можа пераканацца, што рэгістрацыя КПБ праведзена ў поўнай адпаведнасці з законамі Саюза ССР і БССР.

Аднак сяму-таму хочацца даказаць тое, што даказаць немагчыма. І вось «падазронасць» пераходзіць ужо ў нейкую іншую якасць. Каменціруючы факт рэгістрацыі КПБ, «Народная газета» піша (цытуем): «Але, як аказалася цяпер, статут на рэгістрацыю прадстаўляць зусім не абавязкова. Дастаткова спаслацца на мінулагоднюю пастанову № 255 Савета Міністраў рэспублікі, дзе гаворыцца аб тым, што раней існаваўшыя аб'яднанні грамадзян павінны прайсці толькі перарэгістрацыю...»

З усёй адказнасцю павінен заявіць чытачам, што ў пастанове Савета Міністраў Беларускай ССР ад 3 кастрычніка 1990 года № 255 «Аб зацвярджэнні часовага палажэння аб парадку ўтварэння і дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў грамадзян у Беларускай ССР» такіх слоў няма і блізка. Дарэчы, у гэтым кожны можа пераканацца.

Такая вось «аргументацыя». Кожны непрадузяты чалавек можа даць ацэнку такім, мякка кажучы, штукарствам. Але ж іменна — непрадузяты...

А можа хопіць ужо «Народнай газеце» ва ўсіх грахах падазраваць Кампартыю? Несур'ёзны гэты занятак.

**М. ЧАРАПІЦА.**

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

